ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (56) лістапад 2015 год

CATHOLICNEWS.BY

## Апостальскага Нунцыя Клаўдыё Гуджэроці з Беларусі пераводзяць ва Украіну

Стар. 3



## Каталіцкія семінарыі ў Беларусі чакаюць перамены

Стар. 4



## Крыж і глобус

Стар. 6–7



## Што думаюць католікі пра хрысціянскія знакі на новых беларускіх грашах?




Стар. 8–9





# Беларускі ручнік у Ватыкане, або Што значыць быць адвакатам ткацтва?




**“Я за кроснамі адпачываю і супакойваюся. Сядаю ткаць, пра штосьці думаю, кручу нешта ў галаве”, – распачынае размову на сваім працоўным месцы сённяшні герой.**

Пра Яўгена Маркевіча з Ліды ўжо шмат пісалі, але ж мала хто ўзгадвае, што вядомы беларускі ткач з'яўляецца выхаванцам тамтэйшага Фарнага касцёла, хадзіў у пілігрымкі, а сёстры-назарэтанкі ездзілі да Папы Бэнэдыкта з ручніком, вытканым сваім вучнем. Але ручнік у Ватыкане не галоўны гонар хлопца. Ёсць і больш важныя ўспаміны. Пра ўсё па парадку.

Раней перад тым, як сесці за кросны, жанчыны хрысціліся. Пазней падчас ткання ўсе маліліся, спявалі. У звычайны перыяд былі простыя і рэлігійныя спевы, а вось у пост – толькі пабожныя. Лідчанін падкрэслівае, што сёння адчувае сябе адвакатам ткацтва. Многія лічаць у наш час, што з кроснамі было звязана шмат забабонаў, але ж “людзі верылі, што гэта дапаможа, і хоць былі неадукаваныя, аднак па-свойму прыносілі ахвяру Богу”. Датычна магіі ў ткацкіх узорах, дык тут цяжка пра нешта меркаваць. Апошнія пакаленні бабуляў слаба захавалі значэнне шмат якіх узораў. Таму рабілі проста, каб было прыгожа. Сам жа хлопец з усмешкай прызнаецца, што калі тчэ, то і сам любіць памаліцца якой песняй, хоць той жа ружанец, канешне, не адгаворыш – трэба ўвесь час лічыць ніткі.

“Ад самага нараджэння і да смерці чалавека суправаджала тканіна, – працягвае суразмоўца. – Немаўля адразу спавівалі, адмысловыя ручнікі дарыліся з кожнай важнай нагоды, а таксама кlaліся ў труну да нябожчыка”. Калі нехта паміраў, то за ноч ткаўся пахавальны ручнік, а раніцай выкідваўся з акна, нібы суправаджаючы душу да неба. Яўген кажа, што арнаменты, нанесеныя па краях вопраткі, нібы аберагалі часткі цела, якія не былі прыкрытыя адзеннем. Нездарма ручнік на Палессі называлі дарогай да неба.

Яўген гаворыць, што хоць з ткацтвам звязана ўся наша культура, але яно ўжо амаль вымерла. “Хутчэй, ужо вымерла”, – неяк нечакана дадае. Разважаючы пра беларусаў учора і сёння, ён кажа, што калі раней нешта пачыналася, то гэта трэба было скончыць, сёння да такога па-іншаму ставяцца. Усе выйшлі з вёскі, але гэта не цэніцца. Дробязі і рэчы ўвогуле ўспрымаюцца ўжо не так, людзі развучыліся рамантаваць: паламаў – выкінуў. Таму тое, што ёсць, беражэцца ўжо не так. У тым ліку і культура.

Самая “цёплая” для яго праца знаходзіцца ў Расіі, у Краснаярску. З ноткай гонару за самога сябе кажа: “1,6 на 2,1 метра, 4 дні і 4 начы рабіў”. Бацькі таго мужчыны пераехалі на Усход калі хлопец быў малы. Але ўсё жыццё яго сагравалі ўспаміны пра канікулы ў бабулі ў Дзятлаўскім раёне. У яе паўсюль былі разасланыя рознакаляровыя посцілкі. Таму на памяць пра дзядоў гэты чалавек папрасіў Яўгена выткаць адну такую. Цяпер гэтая, як кажуць, “дзяруга” знаходзіцца дзесьці далёка ў Расіі і нагадвае людзям пра Беларусь, пра іх мінулае. У гэтым хлопец і бачыць сэнс: каб “тканіны жылі, прыносілі некаму карысць”.

“Да нас у Дом рамёстваў прывезлі адзін станок з кавалкам недатканага матэрыялу. Аказваецца, маці аднаго мужчыны навіла аснову на посцілку, палову выткала і памерла. Таму для яе сына было важна, каб кросны яго маці працавалі. Вось ён і аддаў іх нам”, – распавёў Яўген гісторыю аднаго станка. А вось ці навучыць ткач з Ліды сваіх дзяцей гэтаму рамёству, ён не ведае. “З-пад палкі вучыць не буду”, – махнуўшы, кінуў. Яўген лічыць, што найлепшыя майстры – самавучкі. Таму калі нашчадкі захочуць, дык навучацца.

*Падрыхтаваў* ***Арцём Ткачук*** *для grodnensis.by*




# Беларускія вернікі маліліся ля рэліквій св. Язафата ў Ватыкане



**Дэлегацыя беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы 12 лістапада прыняла ўдзел ва ўрачыстай літургіі ў базыліцы св. Пятра ў Ватыкане ў свята св. Язафата, біскупа і мучаніка. Яе ўзначаліў пры алтары, дзе змешчаны рэліквіі святога, арцыбіскуп Кірыл Васіль, сакратар Кангрэгацыі па справах Усходніх Касцёлаў.**

Іерарх асаблівым чынам прывітаў групу грэка-каталіцкіх вернікаў з Беларусі і нагадаў, што “50 гадоў таму, падчас Другога Ватыканскага Сабора, рашэннем св. Яна XXIII, у базыліцы св. Пятра былі складзены мошчы св. Язафата, які на беларускай зямлі, у Віцебску, прыняў вянец мучаніцтва”. Ён адзначыў таксама, што ўдзел у той урачыстасці браў і беларускі грэка-каталіцкі біскуп Чэслаў Сіповіч, 100-годдзе нараджэння якога адзначалася ў мінулым годзе.

“Жадаю перадаць дар нашай братэрскай малітвы і словы нашай духоўнай салідарнасці для ўсіх вернікаў Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі і ў замежжы. Няхай у юбілейным Годзе Міласэрнасці праз малітвы свяшчэннамучаніка Язафата Госпад адорыць шчодра вас усіх шматлікімі ласкамі. Няхай дае вам дар мужна ды плённа абвяшчаць Евангеле радасці і міласэрнасці”, – сказаў арцыбіскуп Васіль пабеларуску.

Св. Язафат загінуў мучаніцкай смерцю ў Віцебску ў 1623 г. Яго рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 г. у Белай Падлясцы, былі перавезены ў Вену, а потым – у базыліку св. Пятра ў Ватыкане, дзе і захоўваюцца зараз.

*Ватыканскае радыё*




# Пантыфік памаліўся з хворымі і паабедаў з беднымі

Пасля сустрэчы з прадстаўнікамі Агульнаітальянскага касцельнага кангрэсу ў фларэнтыйскай архікатэдры Санта-Марыя-Дэль-Ф'ёрэ 10 лістапада Папа Францішак накіраваўся ў іншую базыліку – Санцісіма-Анунцыята, каб сустрэцца з хворымі і інвалідамі. Разам з імі Святы Айцец памаліўся “Анёл Панскі”, а затым прывітаў кожнага з прысутных асабіста.

Пасля гэтага кароткага спаткання Пантыфік пешшу прайшоў да мясцовай каталіцкай сталоўкі, названай у гонар св. Францішка Асізскага. Тут ён правёў час абедзеннага перапынку ў кампаніі бедных людзей, якія рэгулярна атрымліваюць у гэтай установе гарачую ежу, а таксама духоўную і маральную падтрымку.

Пасля абеду Папа адпачыў у сядзібе біскупа Фларэнцыі.

*Ватыканскае Радыё*

# Апостальскага Нунцыя Клаўдыё Гуджэроці з Беларусі пераводзяць ва Украіну

**13 лістапада Каталіцкі Касцёл у Беларусі даведаўся, што Апостальскі Нунцый арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці пакідае Беларусь: Папа Францішак перавёў яго як прадстаўніка Ватыкана ў Кіеў. За гэтыя гады многія жыхары Беларусі незалежна ад рэлігійнай і канфесійнай прыналежнасці пазнаёміліся з іерархам, сталі паважаць і нават палюбілі гэтага сына Італіі, а Апостальскі Нунцый палюбіў нашу краіну і наш народ.**

**Аляксандр Гелагаеў**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці быў прызначаны Апостальскім Нунцыем 15 ліпеня 2011 года і запомніўся Беларусі многімі сваімі ўчынкамі, самыя яркія з якіх мы згадаем у гэтым артыкуле.

Сваё прабыванне ў Беларусі Апостальскі Нунцый пачаў з наведвання хворых дзяцей у Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры дзіцячай анкалогіі і гематалогіі ў Бараўлянах у знак пашаны да пакутаў беларускага народа.

За час працы арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці ў Беларусі былі прызначаны адразу чатыры новыя біскупы – яркае адлюстраванне адраджэння Касцёла ў Беларусі і трывалы грунт для будучага росту хрысціянства ў нашай краіне.

Апостальскі Нунцый адразу зарэкамендаваў сябе як вялікі прыхільнік беларускай культуры. Іерарх вывучыў беларускую мову, пачаў цэлебраваць святую Імшу на ёй ужо ў 2012 годзе, неаднаразова заклікаў беларускіх вернікаў і духавенства шанаваць і бараніць беларускую мову.

"Дарагія кандыдаты! Вы будзеце служыць народу, які мае сваю гісторыю, сваю культуру, сваю мову, свае надзеі", – казаў арцыбіскуп новым святарам і дыякану падчас урачыстасці ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў 17–18 жніўня 2012 года.

Прадстаўнік Пантыфіка праводзіць незвычайна актыўную душпастырскую дзейнасць: наведвае парафіі, удзяляе сакраманты, стаў блізкім да звычайных вернікаў і заўсёды гатовы слухаць пра іх турботы. Гэтак праз асобу Апостальскага Нунцыя Святы Айцец у Рыме зрабіўся бліжэйшым да беларускіх католікаў.

Таксама прадстаўнік Святога Айца вызначыўся апекай зняволеных у Беларусі. У прыватнасці іерарх наведаў палітычных вязняў Алеся Бяляцкага, Міколу Статкевіча, Зміцера Дашкевіча, Паўла Севярынца, Сяргея Каваленку, Паўла Сыламалотава, Эдуарда Лобава. Арцыбіскуп перадаў ім вітанні Святога Айца і ўсіх католікаў, паведаміў вязням, што Касцёл моліцца за іх і іх сем'і.

Апостальскі Нунцый кожны год наведваў Курапаты – месца, дзе ў часы бальшавіцкай няволі былі расстраляныя дзясяткі тысяч жыхароў Беларусі. У Курапатах і ў Трасцянцы арцыбіскуп моліцца за загінулых і зніклых сыноў і дачок Беларусі, але таксама і за будучых яе дзяцей.

Асаблівым сябрам арцыбіскуп Гуджэроці стаў для моладзі ўсёй Беларусі. Вельмі прыязны і ўсмешлівы, іерарх хадзіў з юнакамі і дзяўчатамі як звычайны пілігрым ці ўдзельнік вулічнай працэсіі, спяваў і маліўся з імі.

Арцыбіскуп пакінуў свой след і ў гісторыі беларускай сталіцы: пры ім пачалося і было амаль скончанае будаўніцтва новай Апостальскай Нунцыятуры.

Багатую і разнастайную спадчыну прадстаўнік Святога Айца пакінуў сваім наступнікам!

Беларусь удзячная арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці за ягоную любоў, за натхненне, якое ён перадае нам, і моліцца за іерарха!

Вас прызначылі ў суседнюю Украіну, Ваша Эксцэленцыя, таму, спадзяёмся, у Вас будзе магчымасць час ад часу прыязджаць у госці да беларускага народа, у сэрцы якога Вашае імя застанецца сімвалам мудрасці і радасці!

# 1000-старонкавы малітоўнік "на ўсё жыццё" выдалі ў Пінску



**Адметнасцю ўрачыстасцяў 90-годдзя Пінскай дыяцэзіі, якія ўжо пачаліся, стала яшчэ адна гістарычная падзея. Да свята прымеркаванае выданне малітоўніка на беларускай мове пад назвай "Бог добры" – найбольшага па змесце і самага шматстаронкавага ў гісторыі Касцёла ў Беларусі. Там сабраныя ўсе распаўсюджаныя і амаль забытыя малітвы, набажэнствы, спевы, характэрныя для Касцёла на нашых землях. Памер малітоўніка – больш за 1000 старонак.**

**Павел Міцкевіч**

Цікава, што кніга нараджалася каля дзевяці месяцаў – прыкладна столькі доўжылася праца над малітоўнікам. Падрабязнасці ў інтэрв'ю Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё распавёў галоўны рэдактар малітоўніка, пробашч пінскай катэдры, місіянер-аблат Беззаганнай Марыі айцец Пётр Бялевіч.

"Малітоўнік стварылі непрафесіянальнай групай з чатырох чалавек. Вырашылі зрабіць малітоўнік, які калісьці мелі нашы бабулі. Бо шмат разоў, калі я ездзіў па Беларусі, людзі пыталіся, а што ў вас за кніга, паказваючы на брэвіярый, а чаму ў вас так многа малітваў, а ў нас столькі няма. Людзі прасілі такі малітоўнік, дзе было б шмат малітваў. І я падумаў, а чаму, праўда, не зрабіць малітоўнік на ўсе выпадкі жыцця? Шукаць далёка не трэба было, бо старых кніжак хапае ў кожнага святара, праўда, большасць на польскай мове. Людзі прыносяць часам малітоўнікі ад сваіх памерлых бабуляў, кніжкі, якім сто або нават больш гадоў".

У малітоўнік "на ўсё жыццё", якім бы чалавек мог карыстацца ў самых розных сітуацыях, уключылі не толькі асноўныя, найважнейшыя малітвы. У новай кніжцы 36 літаній, Ютрань, нядзельныя Нешпары, малітвы ў падарожжы, на адправіны хлопца ў войска, на жаніцьбу, шмат старадаўніх малітваў за памерлых, сакраманты. Складальнікі малітоўніка карысталіся не толькі польскімі кніжкамі, але і ўжо зробленымі перакладамі малітваў з часопіса "Авэ Марыя", з інтэрнэту, а пасля аддалі сабраны матэрыял спецыялісту ў беларускай мове, які ўнёс карэктывы.

"Малітоўнік выдалі для таго, каб людзі маглі чытаць, пазнаваць, быць з Богам, таму назвалі кніжку цытатай з Бібліі – "Бог добры", што часта сустракаецца ў псальмах. Малітоўнік як бы заахвочвае чалавека: не бойся гаварыць з Богам, Ён добры! Ён хоча твайго шчасця, хоча тваёй радасці, хоча табе дапамагчы, навучыся размаўляць з добрым Богам! Дзякуем Пану Богу, што мы змаглі рэалізаваць гэтую ідэю", – падзяліўся айцец Пётр.

Кніжку выдала Душпастырства сем'яў Пінскай дыяцэзіі і місіянеры-аблаты Беззаганнай Марыі накладам у некалькі тысяч асобнікаў, але калі будуць ахвотныя набыць малітоўнік з іншых дыяцэзій, можа быць надрукаваны дадатковы тыраж. З выданнем можна будзе ўпершыню пазнаёміцца на юбілеі дыяцэзіі ў Пінску, і пасля гэтага малітоўнікі перададуць у парафіі дыяцэзіі.

Таксама да 90-годдзя дыяцэзіі выдадзеная спецыяльная брашура на базе пінскай катэдральнай газеты "Добра, што ты ёсць". На 20-ці старонках брашуры – асноўныя звесткі па гісторыі і сучаснасці дыяцэзіі, духоўнай семінарыі ў Пінску, пра знакавых пастыраў, мясцовых святых і бласлаўлёных, пра пінскіх біскупаў.

# У гервяцкім касцёле з'явіліся скульптуры разбойнікаў, распятых з Хрыстом

**Для гервяцкага касцёла Святой Тройцы, што на Гродзеншчыне, існуе шмат прыдуманых журналістамі і турыстамі і цалкам аб'ектыўных азначэнняў з прыстаўкай "самы", "адзіны", "адзін з нямногіх"...**



Валянцін Багдзевіч з пробашчам Леанідам

Нядаўна да яго дадалося яшчэ адно: гервяцкі касцёл – адзіны ў нашай краіне і адзін з нямногіх у свеце, дзе ўстаноўлены скульптуры разбойнікаў, якія былі распяты разам з Езусам Хрыстом на Галгофе. Іх драўляныя фігуры выразаў вядомы ў Беларусі і ў свеце гродзенскі рэзчык па дрэве Валянцін Багдзевіч.

Валянцін Багдзевіч – выпускнік мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, удзельнік шматлікіх міжнародных пленэраў у Польшчы, Літве, Беларусі, сусветных выставак у Турцыі і Кітаі.

– Гэтая работа – справа ўсяго майго жыцця, – гаворыць Валянцін Багдзевіч. – Амаль год назад, 24 лістапада, ксёндз-пробашч Леанід Несцюк расказаў мне, як аднойчы падчас малітвы ўбачыў, нібы наяве, у сваім касцёле фігуры двух разбойнікаў, паміж якімі быў распяты Езус. Святар цікавіўся, ці змагу я выразаць скульптуры гэтых разбойнікаў? І я зразумеў, што гэта шанс, які выпадае мастаку раз у жыцці. Я памаліўся, як умеў, перад алтаром у касцёле Святой Тройцы, папрасіў, каб Бог даў мне сіл, розуму і майстэрства справіцца з гэтай работай...

– Увогуле для майстра выразаць фігуры двух чалавек – па сутнасці, менавіта гэта трэба было зрабіць – справа нескладаная, – працягвае Валянцін. – Калі б гэта была звычайная работа, яна не заняла б больш двух тыдняў. Але гэты заказ быў асаблівы... Я "пералапаціў" увесь інтэрнэт, усю магчымую літаратуру аб распяцці і смерці Хрыста. На жаль, пра разбойнікаў, якія былі распяты разам з Езусам, вядома мала. І амаль немагчыма знайсці іх скульптуры: у Беларусі нічога падобнага няма, ва ўсім свеце – дзве-тры работы. А мне хацелася, каб не толькі анатамічна фігура адпавядала сапраўднасці, каб гэта была скульптура чалавека, які жыў два тысячагоддзі назад у Іардані. Галоўным я лічыў перадаць твары разбойнікаў – іх думкі, пачуцці, пакуты, страхі, надзеі... Я думаў пра гэта няспынна. Мне хацелася, каб у гэтых скульптурах былі бачны жывыя людзі.



Драўляныя скульптуры разбойнікаў устаноўлены ў бакавых нефах гервяцкага касцёла. Пазней для іх будуць зроблены спецыяльныя дубовыя крыжы – і яны займуць свае месцы ў праёмах паміж вітражамі з выявамі святых.

*Паводле ostrovets.by*




## Прызначаны новы дырэктар Нацыянальнага "Карытас"

**На 60-ым пленарным пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі было прынята рашэнне прызначыць на пасаду дырэктара рэлігійнай місіі "Дабрачыннае Каталіцкае Таварыства "Карытас" кс. Віталя Дабраловіча.**

Нагадваем, што дагэтуль дырэктарам Нацыянальнага "Карытас" быў кс. Віктар Гайдукевіч SDB, які з 2009 года шчыра і аддана нёс сваю паслугу, выконваючы галоўную місію таварыства, а таксама заданне кожнага хрысціяніна – ахвярна служыць бліжняму. Нёс міласэрную любоў тым, хто найбольш яе патрабуе.

Новы дырэктар "Карытас" Беларусі, кс. Віталь Дабраловіч, нарадзіўся 31 сакавіка 1979 г. у Ляпешках. Скончыў Вышэйшую Духоўную Семінарыю ў Гродне.

Святарскія пасвячэнні атрымаў 29 мая 2004 г. з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча ў Гродзенскай катэдры.

З 2004 па 2006 гг. быў вікарыем парафіі ў Бярозаўцах.

У 2006 г. стаў дырэктарам "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі.

З 2007 па 2009 гг. вывучаў эканоміку і права ў БДУ ў Мінску.

Ксёндз Віталь Дабраловіч з 2006 года нёс паслугу ў "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. За гады працы кс. Віталя ў "Карытас" у Гродне быў рэалізаваны шэраг дабрачынных праектаў.

Пад кіраўніцтвам кс. Віталя гродзенскі "Карытас" аказваў дапамогу перш за ўсё шматдзетным сем'ям, самотным людзям і бяздомным.

Гродзенскі "Карытас" супрацоўнічае з парафіямі, школамі, іншымі адукацыйнымі ўстановамі, дабрачыннымі фондамі і таварыствамі, а таксама з бальніцамі.

*caritas.by*

## Каталіцкія семінарыі ў Беларусі чакаюць перамены

**"Каталіцкія семінарыі Беларусі чакаюць перамены і мадыфікацыя", – паведаміў "Каталіцкаму Весніку" біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, які ўзначальвае Камісію па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі.**

**кс. Віктар Місевіч**

Па словах іерарха, перамены ў арганізацыі навучальнага працэсу ў беларускіх семінарыях звязаны перадусім з візітам у Беларусь у маі 2015 года Сакратара кангрэгацыі па справах духавенства арцыбіскупа Хорхэ Карласа Патрона Вонга. Вынікам гэтага візіту стаў ватыканскі дакумент, у якім прапануецца арганізаваць прапедэўтычны год у семінарыях. Гэта значыць, семінарысты, перш чым пачаць непасрэдна навучанне ў вышэйшай духоўнай семінарыі, павінны будуць прайсці год падрыхтоўкі.

Як вядома, на сённяшні дзень у Беларусі функцыянуюць дзве духоўныя каталіцкія семінарыі: у Гродне і Пінску. Пасля падрыхтоўчага году навучэнцы будуць вывучаць філасофію ў семінарыі ў Пінску, а тэалогію – у семінарыі ў Гродне.

По словах біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB, такі навучальны працэс дазволіць семінарыстам лепш спазнаць агульнабеларускую сітуацыю Касцёла, пазнаёміцца з багаццем Касцёла як на ўсходзе, так і на захадзе Беларусі. Аб'яднанне студэнтаў з розных рэгіёнаў Беларусі стане таксама добрым грунтам для заснавання Духоўнай Акадэміі ў Мінску.



Біскуп Аляксандр зазначыў таксама, што акрамя яго над мадыфікацыяй навучальнага працэсу ў семінарыях працуюць члены камісіі: біскуп Юзаф Станеўскі з Гродна, біскуп Антоні Дзям'янка з Пінска, кс. Раман Рачко, рэктар семінарыі ў Гродне, і кс. Андрэй Рылка, рэктар семінарыі ў Пінску.

Плануецца, што анансаваныя змены ўвойдуць у жыццё з новага навучальнага года, гэта значыць, з восені 2016-га.

# Праграма перажывання Года Міласэрнасці ў Каталіцкім Касцёле ў свеце і ў Віцебскай дыяцэзіі

## 08.12.2015 – 20.11.2016



### 2015 год:

**8 снежня** – адкрыццё Святых Дзвярэй у базіліцы Святога Пятра.

**13 снежня** – адкрыццё Святых Дзвярэй у Латэранскай базіліцы і ў катэдрах ва ўсім свеце.

**13 снежня, 09.30** – у Катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску.

**13 снежня, 18.00** – у Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.

### 2016 год:

**1 студзеня** – Сусветны дзень Супакою – адкрыццё Святых Дзвярэй у базіліцы Санта Марыя Маджорэ.

**19-21 студзеня** – юбілей душпастыраў пілігрымак і працаўнікоў месца, куды прыбываюць пілігрымкі.

**25 студзеня** – адкрыццё Святых Дзвярэй у базіліцы Святога Паўла ў Рыме.

**2 лютага** – юбілей законных асобаў і заканчэнне Года Кансэкраванага жыцця.

**10 лютага** – Папяльцовая Серада – пасланне місіянераў міласэрнасці.

**22 лютага** – юбілей Рымскай курыі.

**28 лютага** – юбілей дабрачыннай арганізацыі "Карытас".

**4-5 сакавіка** – "24 гадзіны для Пана" з пакутным набажэнствам у базіліцы Святога Пятра.

**4-5 сакавіка** – 24 гадзіны адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў парафіяльных касцёлах.

**19 сакавіка** – малітоўная сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі ў Полацку. Адказны: кс. Аляксей Асон.

**20 сакавіка** – Пальмовая нядзеля – Дыяцэзіяльны Дзень моладзі ў Рыме.

**3 красавіка** – Нядзеля Божай Міласэрнасці – юбілей для ўсіх, хто практыкуе духоўнасць Божай Міласэрнасці.

**23 красавіка** – малітоўная сустрэча моладзі ў Паставах. Адказны: кс. Аляксей Асон.

**24 красавіка** – юбілей моладзі ва ўзросце 13-16 гадоў, якая будзе прыступаць да сакраманту бежмавання з заклікам "Вызнаванне веры і будаўніцтва культуры міласэрнасці".

**7 мая** – юбілей міністрантаў у Паставах. Адказны: кс. Аляксандр Грыцкевіч.

**13 мая** – юбілей Легіёну Марыі ў Шуміліне. Адказны: а. Кшыштаф Коц'ян OP.

**28 мая** – Працэсія Божая Цела ў Віцебску.

**29 мая** – урачыстасць Божага Цела ў Італіі – юбілей дыяканаў.

**2 чэрвеня** – Вігілія ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса – Агульнабеларускі юбілей святароў у Браславе.

**3 чэрвеня** – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса – юбілей святароў: 160-я гадавіна ўстанаўлення гэтай урачыстасці Папам Піем IX у 1856 годзе.

**12 чэрвеня** – юбілей хворых і інвалідаў. Парафія Святога Антонія Падуанскага ў Віцебску. Просьба арганізаваць таксама юбілей хворых у парафіях дыяцэзіі.

**26-31 ліпеня** – юбілей моладзі – Сусветны Дзень моладзі ў Кракаве.

**17-19 жніўня** – Дыяцэзіяльныя дні моладзі ў Браславе.

**19 жніўня** – удзяленне сакраманту бежмавання ў Браславе.

**20 жніўня** – урачыстасць Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.

**4 верасня** – літургічны ўспамін бл. Маці Тэрэзы з Калькуты – юбілей усіх асобаў, адданых для служэння міласэрнасці.

**10-11 верасня** – Агульнабеларускае спатканне сем'яў у Браславе.

**24 верасня** – спатканне для катэхетаў у Глыбокім. Адказны: кс. Мікалай Ціхановіч.

**25 верасня** – юбілей катэхістаў і катэхетаў.

**8-9 кастрычніка** – юбілей Марыйны.

**13 кастрычніка** – юбілей Марыйны ў Шуміліне. Просьба арганізаваць юбілей Марыйны ў парафіях дыяцэзіі.

**1 лістапада** – Папская св. Імша за памерлых.

**6 лістапада** – юбілей вязняў у базіліцы Святога Пятра.

**13 лістапада** – закрыццё Святых Дзвярэй папскіх базілік Рыма і ў дыяцэзіях.

**13 лістапада, 09.30** – у Катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску.

**13 лістапада, 18.00** — у Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.

**20 лістапада** – урачыстасць Езуса Хрыста Валадара Сусвету – закрыццё Святых Дзвярэй у базіліцы Святога Пятра і заканчэнне юбілею Міласэрнасці.

*"Каб перажыць і атрымаць адпуст, вернікі павінны зрабіць кароткую пілігрымку да Святых дзвярэй, адчыненых у кожнай катэдры або касцёлах, вызначаных дыяцэзіяльным біскупам, а таксама ў чатырох папскіх базіліках у Рыме, у знак глыбокага імкнення да сапраўднага навяртання. Акрамя таго, я распараджаюся, каб у санктуарыях, дзе былі адчынены Дзверы Міласэрнасці, і ў касцёлах, якія традыцыйна вызначаны ў якасці юбілейных, існавала магчымасць атрымання адпусту. Важна, каб гэты момант быў звязаны, у першую чаргу, з сакрамантам пакаяння і ўдзелам у св. Імшы, а таксама з разважаннем пра міласэрнасць. Неабходна будзе суправаджаць гэтыя цэлебрацыі вызнаннем веры і малітвай за мяне і ў маіх інтэнцыях, якія нашу ў маім сэрцы на карысць Касцёла і ўсяго свету".*

***Святы Айцец Францішак***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Крыж і


Кляштар Сясцёр Маці Міласэрнасці ў Каменцы

**Савецкая эпоха хоць і адыходзіць ад нас далей, у мінулае, усё яшчэ даволі часта становіцца аб'ектам даследаванняў, дыскусій і розных меркаванняў. Гісторыкі спрачаюцца пра факты і наступствы, камуністы шкадуюць пра страчанае, а патрыёты радуюцца незалежнасці. Для Каталіцкага Касцёла ў Беларусі савецкі перыяд можна акрэсліць адным словам: мучаніцтва. У гэтым артыкуле пойдзе гутарка пра святара Юзафа Грасэвіча, які прайшоў праз арышты, ссылку і пагрозы, аднак да канца застаўся верным свайму святарскаму пакліканню і місіі.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*


Ксёндз Юзаф Грасэвіч. Фота з часоў ссылкі


Літургічныя прадметы ксяндза Юзафа Грасэвіча з часоў зняволення

Кс. Юзаф нарадзіўся не ў Беларусі. Ён быў родам з Варшавы. Нягледзячы на сталічнае паходжанне, большую частку свайго жыцця святар прысвяціў простым людзям у глыбінцы. Каб лепш спазнаць яго жыццёвы шлях, накіроўваюся ў в. Каменка Шчучынскага раёна, дзе ён працаваў апошні перыяд і спачыў ва ўзросце 96 гадоў.

На парозе кляштара Сясцёр Маці Міласэрнасці мяне вітае сястра Фаўстына Цыдзік і ласкава запрашае да размовы. Трэба адзначыць, што сястра Фаўстына не толькі ў жывую сустракалася з кс. Юзафам, але і пісала навуковую працу па яго духоўнай спадчыне.

"Цікава, што кс. Юзаф ніколі не святкаваў свайго дня нараджэння", – пачынае с. Фаўстына. Такі факт нічым мяне не здзіўляе спачатку. Даволі часта здараецца, што ў каталіцкіх сем'ях пераважна святкуюцца імяніны замест дня нараджэння. Але ўсё-такі маё здзіўленне мае месца, бо аказваецца, што святар кожны год святкаваў дату свайго хросту – 15 снежня. Для яго гэтая дата азначала сапраўднае нараджэнне для неба. Пра неба ён шмат марыў, расказваў людзям падчас казанняў і да неба рыхтаваў сваіх вернікаў.

## Двойчы вязень

– Ксяндзу Юзафу давялося працаваць у час, калі атэістычны рэжым быў найбольш варожа настаўлены да Касцёла і духавенства. Скажыце, у святара не было думак пакінуць пакутлівае месца працы і з'ехаць напрыклад у Польшчу?

– У яго неаднойчы была такая магчымасць – выехаць. І пасля 1939 года, калі прыйшлі бальшавікі, і пасля ІІ Сусветнай вайны, калі замест нямецкай навалы прыйшлі ізноў камуністы. Але кс. Юзаф не хацеў пакідаць сваёй паствы. Нават прадчуваючы свой арышт, ён не ўцёк.

– Яго арыштавалі савецкія ўлады?

– Святару давялося двойчы пабываць пад следствам. Спачатку ў 1942 годзе яго схапілі немцы ў Вільні. Ім падалося падазроным, што ксёндз мог мець кантакты з іншым святаром, Свіркоўскім, які быў расстраляны за дапамогу яўрэям. Аж да вызвалення савецкімі войскамі кс. Юзаф быў вязнем і выконваў прымусовыя працы. Аднак вызваліцелі не прынеслі сапраўднай свабоды. Кс. Юзаф быў ізноў арыштаваны, гэтым разам ужо савецкай уладай. У 1951 годзе ён быў схоплены і кінуты ў вязніцу за споведзь партызанаў АК і антыкамуністычную прапаганду. Прысуд быў 25 гадоў лагераў. Пакаранне ён адбываў у Інце (Рэспубліка Комі).

## Імшал на тканіне

З гэтымі словамі сястра Фаўстына адкрывае каробку і дастае літургічныя прадметы, на якіх ужо ляжыць пячатка часу. Бялізна і папера набыла жаўтаватага колер, тканіна месцамі працерлася.

– Вось гэта імправізаваныя келіх і патэна, з якімі кс. Юзаф Грасэвіч адпраўляў св. Імшу ў ссылцы.

Сястра паказвае просты металічны кілішак і шкляную талерачку.

– А гэта – рукапісны Імшал. Ён напісаны на тканіне ў форме выкрайкі, таму што кс. Юзаф апранаў яго на спіну, калі ведаў, што будзе адпраўляць св. Імшу. Такія захады былі патрэбныя, каб "надзіраццелі" не заўважылі Імшала і не адабралі яго. У Інце святар працаваў у вугальных шахтах, у лесе і таксама пры свіннях. Нават у такіх умовах ён памятаў пра сваё пакліканне і святарскую місію. Пасля смерці Сталіна ён быў вызвалены ад пакарання і часткова рэабілітаваны.

## Ксяндзоўскі бунт

– Ці зламалі яго гэтыя выпрабаванні? Як думаеце?

– Ні ў якім разе! Ксёндз Юзаф Грасэвіч разам з Тадэвушам Бірэцкім з'яўляецца сузаснавальнікам нашага ордэна Сясцёр Маці Міласэрнасці. Гэты ордэн паўстаў перад вайной, але найбольшы росквіт яго прыйшоўся якраз на перыяд атэістычнага рэжыму. Сёстры хоць і не насілі манаскага адзення, аднак цалкам прысвячалі сваё жыццё


Ксёндз Юзаф Грасэвіч разам са сваёй маці і сёстрамі з ордэна Сясцёр Маці Міласэрнасці

# глобус





**Сястра Фаўстына Цыдзік расказвае пра арыгінальны крыж са старой капліцы і абраз Езуса Міласэрнага, намаляваны мастаком Сергіевічам на замову ксяндза Юзафа Грасэвіча ў 1940 годзе**

Богу і людзям. І гэта ўсё пад духоўным кіраўніцтвам кс. Юзафа. У яго вельмі багатая духоўная спадчына. У парафіі ў Каменцы і іншых месцах паўсталі спецыяльныя начныя малітоўныя групы. Можаце сабе такое ўявіць? У савецкі час, калі ўлады ўсяляк запалохвалі вернікаў, людзі ў апошні чацвер месяца ўставалі ноччу і па чарзе маліліся, каб разважаць над Мукай Езуса Хрыста.

– Гэта сведчыць, што кс. Юзаф меў высокі аўтарытэт у людзей?

– Ён, нягледзячы на сваё паходжанне і дзве вышэйшыя адукацыі (акрамя семінарыі, скончыў яшчэ і філалагічны факультэт), быў вельмі просты з людзьмі. Ён і гаварыў з імі “па-просту”, хоць сам быў палякам, вельмі ўважліва ставіўся да іх патрэбаў. Але і вымагаў захавання Божых запаведзяў. Быў патрабавальны. Ксяндза Юзафа і перавялі да нас, у Каменку, з Крамяніцы, бо там ён стаў арганізатарам сапраўднага бунту.

– Бунт у савецкія часы быў магчымы?

– Ды яшчэ ў 1969 годзе! Справа ў тым, што ў некалькіх вёсках Крамяніцкай парафіі была праведзеная антырэлігійная акцыя. Бязбожнікі паспілоўвалі прыдарожныя крыжы і адправілі іх у пякарню ў Зэльву. Гэта абурыла людзей і святара. Былі зробленыя фотаздымкі, напісаны пратэст і ўсё гэта адпраўлена ў Маскву. За такую актыўнасць святара пазбавілі права выконваць святарскія абавязкі і пазней накіравалі да нас, у Каменку.

### Прарочая смеласць

– Кс. Юзаф быў сузаснавальнікам вашага ордэна. Скажыце, якім чынам ён як душпастыр рэагаваў на новы, яшчэ не зацверджаны культ Божай Міласэрнасці?

– Ён быў добра знаёмы з кс. Сапоцькам, спаведнікам с. Фаўстыны Кавальскай і, канешне, цалкам падтрымліваў гэты культ. Важны і той факт, што ў парафіі ў Новай Рудзе, дзе кс. Юзаф таксама пэўны час быў пробашчам, захоўваўся арыгінал абраза Езуса Міласэрнага, які цяпер у Вільні. Гэты абраз вывезлі сёстры ў Вільню патаемна па просьбе кс. Міхала Сапоцькі, бо існавала сур’ёзная небяспека, што касцёл і абраз будуць знішчаны камуністамі. Паколькі культ Божай Міласэрнасці быў яшчэ афіцыйна не зацверджаны Апостальскай Сталіцай, то святары баяліся прыняць абраз у найбліжэйшыя касцёлы. Таму ён сёння знаходзіцца ў Вільні.

### Канспірацыя па-манаску

– Сапраўды, у савецкія часы святарам і вернікам даводзілася быць кемлівымі, каб не папасціся.

– Пачакайце, зараз нешта вам пакажу, – кажа с. Фаўстына і знікае за дзвярыма. Праз некаторы час яна з’яўляецца з глобусам у руках. – Здагадайцеся, што гэта такое? – з усмешкай кажа манахіня.

– Глобус як глобус, – пацiскаю плячыма.

– А вось і не. Гэта глобус – табернакулюм.

Пакруціўшы зямны шарык, яна паказвае на дзверку ў глобусе:

– Тут захоўваўся Найсвяцейшы Сакрамант у савецкія часы. Сёстры хоць і захоўвалі свае абяцанні, дадзеныя Богу, аднак не маглі публічна праяўляць сваю прыналежнасць да ордэна. Ім таксама нельга было мець сваёй капліцы. Таму вось і была прыдумана такая канспірацыя. Для любога чалавека, хто заходзіў у дом, – гэта быў усяго толькі глобус. Але на самай справе гэта быў дом нашага Госпада Езуса Хрыста. Адзінае, што было ў гэтай капліцы, – гэта крыж і глобус. Але, як бачыце, глобус быў незвычайны. Перад ім сёстры маліліся разам з кс. Юзафам не раз. Выпрошвалі сілы падчас выпрабаванняў для сябе і для іншых.

Размова з сястрой Фаўстынай праляцела незаўважна, хутка. Едучы з Каменкі і думаючы пра гэты рэпартаж, я спрабаваў уявіць сабе нязломную постаць кс. Юзафа Грасэвіча і сясцёр-канспірантак, якія ў лесе ці на полі ўпотай рыхтавалі дзяцей да Першай Святой Камуніі. Як бы паводзілі сябе мы на іх месцы? Ці хапіла б нам, пакаленню XXI стагоддзя, той моцы і адвагі трывання пры Хрысту, нягледзячы ні на што?

Калі я рабіў здымкі літургічнага посуду кс. Юзафа, то натрапіў на медалік з Маці Божай Шкаплернай, які ён насіў. Выява Багародзіцы ўжо моцна сцёртая. Медалік зроблены з алюмінію. Ніякага срэбра, ніякага золата. Адказ на пастаўленае вышэй пытанне, пэўна, хаваецца ў гэтым. Дасканаласць захоўваецца ў простым. У простай шчырай малітве, у простым пачуцці любові і ў простым жэсце міласэрнасці. А простая і шчырая вера дапаможа перамагчы ўсе выпрабаванні, нават і нашыя, з XXI стагоддзя.



**Рукапісны Імшал ксяндза Юзафа Грасэвіча**

# Хрысціянскія знакі на беларускіх грашах







**На некаторых купюрах новых грашовых знакаў Беларусі, якія паступяць у абарот пасля дэнамінацыі 1 ліпеня 2016 года, змешчаны хрысціянскія сімвалы.**

**а. Зміцер Чарнель CSsR**

У прыватнасці, на купюры ў 10 рублёў – малюнак Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку і крыжа св. Еўфрасінні Полацкай. А на 20-рублёвай купюры намаляваны калаж, прысвечаны тэме духоўнасці: звон і Тураўскае Евангелле.

Грашовыя купюры з'яўляюцца адным з найбольш хадавых друкаваных прадметаў у дзяржаве, пры гэтым выявы на іх нясуць у сабе пэўнае сведчанне і пасланне пра тое, што дадзенае грамадства лічыць для сябе важным. Вельмі пазітыўна, што беларускія грошы будуць несці ў сабе паведамленне пра хрысціянскую аснову нашага грамадства. Згаданыя элементы з'яўляюцца выразным сведчаннем хрысціянскага мінулага беларускага народа, на якім павінна грунтавацца сучаснасць і ўзрастаць будучыня.

Варта звярнуць увагу і на тое, у якім кантэксце размешчаныя гэтыя выявы. Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку размешчаная на купюры, якая прадстаўляе Віцебскую вобласць, тэрыторыю былога Полацкага княства, найдаўнейшай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. У дадзеным выпадку эпоху найдаўнейшай дзяржаўнасці рэпрэзентуе хрысціянскі храм. Крыж св. Еўфрасінні Полацкай змешчаны ў тэматычным калажы, які прысвечаны тэме асветніцтва, што падкрэслівае неразлучнасць гэтага паняцця з хрысціянскай верай. Падобным чынам размешчанае і Тураўскае Евангелле на купюры ў 20 рублёў. Паняцці дзяржаўнасці, асветніцтва, развіцця культуры непарыўна звязаныя з хрысціянствам.

Не абыдзем увагаю таксама выяву "Батлейкі" на 100-рублёвай купюры. Дадзены народны тэатр звязаны з калядным святамі (адсюль назва, Бэтлеем – месца нараджэння Хрыста) і сведчыць пра глыбокую ўкаранёнасць хрысціянства ў народныя звычаі і традыцыі.



## Ці можна змяніць імя, дадзенае пры хросце?

*"Як змяніць імя, дадзенае пры хросце?"*
*Віктар*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Нельга змяніць імя, дадзенае пры хросце. У канонe 849 "Кодэксу кананічнага права" чытаем між іншым пра хрост, што ён "вызваляе людзей з граxоў, адраджае іх як Божых дзяцей і праз упадабненне да Хрыста незнішчальнай пячаткай уключае іх у Касцёл". Гэтая "незнішчальная пячатка" з'яўляецца тым знакам, што не толькі не можна змяніць імя ахрышчанага, але таксама і нязменная яго сутнасць як хрысціяніна, нават пры магчымым знешнім аддаленні ад Хрыста.

## Ці трэба пераасвечваць рэчы, купленыя ў царкве?



***"Слава Ісусу Хрысту! Я з'яўляюся католікам усходняга абраду і ў сувязі з гэтым хачу задаць пытанне. Як вядома, пры Рыма-Каталіцкіх Касцёлах крыжыкі, ружанцы, абразы прадаюцца неасвечанымі. У Праваслаўнай Царкве звычайна наадварот. Напрыклад, калі я хачу набыць у шапіку пры царкве крыжык, зробены ў візантыйскай традыцыі, ці, напрыклад, алей у лампаду, яны будуць асвечаны святаром. Ці правільна я разумею, што, грунтуючыся на дэкларацыі "Dominus Iesus" у адносінах да Праваслаўнай Царквы, гэтыя рэчы ўжо з'яўляюцца асвечанымі належным чынам і ніякага "пера/даасвячэння" не патрэбна?"***
*Сяргей*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– У Канстытуцыі пра Святую Літургію "Sacrosanctum Concilium" II Ватыканскага сабора гаворыцца, што *"святая Маці-Царква ўстанавіла сакраманталіі – святыя знакі, праз якія, з пэўным падабенствам да таінстваў, абазначаюцца і, дзякуючы малітве Царквы, дасягаюцца пераважна духоўныя вынікі. Яны рыхтуюць людзей да плённага прыняцця сакрамантаў і асвячаюць розныя абставіны жыцця"* (SC 60). Сакраманталіі не даюць ласкі Святога Духа, як таінствы, але царкоўнай малітвай яны падрыхтоўваюць да яе прыняцця і схіляюць чалавека да супрацоўніцтва. Прыкладам сакраманталій з'яўляецца асвячэнне рэчаў. Дэкрэт пра экуменізм "Unitatis redintegratio" адносна праваслаўных Цэркваў адзначае, што *"ўсходнія Цэрквы, хоць і адлучаныя ад нас, маюць праўдзівыя таінствы, асабліва паводле апостальскай пераемнасці святарства і Эўхарыстыі, дзякуючы якім яны дагэтуль вельмі цесна злучаны з намі"* (UR 15). Адпаведна сакраманталіі, здзейсненыя праваслаўнымі святарамі, з'яўляюцца сапраўднымі, таму ніякага "пераасвячэння" не патрабуецца.

# Як Вы ставіцеся да хрысціянскіх знакаў на грашах?

**У сувязі з дэнамінацыяй у Беларусі з'явяцца новыя грошы. На некаторых купюрах будуць змешчаны хрысціянскія знакі: царква, крыж і Евангелле, у той час як на манетах будуць выявы паганскіх арнаментаў. Як ставіцеся Вы да хрысціянскіх знакаў на грашах?**

*Ірына Грэйць*



**Мікалай Гудвіловіч:**



– У Святым Пісанні Хрыстос кажа: аддайце кесару кесарава, а Богу – Божае. Грошы заўсёды былі і будуць маёмасцю дзяржавы. Сэнсу друкаваць на іх хрысціянскія знакі не бачу. Ніхто не будзе маліцца на грошы. Я дакладна не збіраюся гэта рабіць… Грошы могуць патрапіць да розных людзей, напрыклад, як да бандытаў, так і да добрых людзей. Спачатку яны іх будуць разглядаць, але потым гэта будуць толькі грошы. На мой погляд, няма чаго ўвогуле друкаваць хрысціянскія сімвалы на грашах.



**Андрэй Нарэль:**



– Грошы кожнай краіны маюць свой дызайн, сваю форму і памер. Некаторыя ўзялі за аснову аднолькавыя грошы, як, напрыклад, ЕС, некаторыя маюць свае, непаўторныя. Але кожная грашовая адзінка мае нешта адметнае на той тэрыторыі, на якой яны служаць разліковай сістэмай. Я лічу, што тое ж самае датычыць і нашых новых банкнот. Нацыянальны каларыт і гістарычныя асаблівасці, якія адносяцца непасрэдна да Беларусі. На мой погляд, я б змясціў крыху іншае: нашых беларускіх дзеячаў, якія годна ўпісалі імя Беларусі ў старонкі гісторыі. А тое, што хрысціянскія знакі размешчаны на купюрах у адным шэрагу з паганскімі, – ну дык што зробіш? Нацыянальны каларыт :)



**Арцём Макарэвіч:**



– Я, безумоўна, ведаю, што хрысціянскія сімвалы з'явяцца ўпершыню на грашовых адзінках Беларусі. Змяшчэнне хрысціянскай сімволікі на грашах пракаментаваў выканальнік абавязкаў прэс-сакратара Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі кс. Юрый Санько: "Думаю, што не павінны змешвацца матэрыяльныя рэчы з духоўнымі. Наколькі ведаю, па задуме аўтараў на новых грашах адлюстраваны духоўныя і гістарычныя каштоўнасці. Але, мяркую, у нас дастаткова шмат іншых гістарычных каштоўнасцяў, выявы якіх можна было б размясціць на купюрах. Бо нават у Святым Пісанні Хрыстос кажа: аддайце кесару кесарава, а Богу – Божае. А тут адбываецца змяшанне, думаю, гэта не зусім правільна", – лічыць святар. Я падтрымліваю меркаванне ксяндза і таксама лічу: усё, што звязана з хрысціянствам і рэлігійным культам, павінна суправаджацца ўшанаваннем. А грошы, на жаль, не заўсёды выкарыстоўваюцца ў добрым кірунку. Імі разлічваюцца не толькі за прадукты харчавання, лекі або за працу, але за іх набываюць алкаголь, наркотыкі, зброю або разлічваюцца за пэўныя немаральныя дзеянні. Лічу, што нельга спалучаць гэтыя рэчы. Таму, што не можа быць рэкламы Бога, тым больш на разліковых банкнотах. Хрысціянін павінен верыць у Бога і сведчыць аб Ім сваім жыццём праз выкананне Божых запаведзяў. І гэта будзе лепшае абвяшчэнне Евангелля, чым проста размясціць сімвал на грашовай купюры.



**Аляксей Каракоў:**



– Я парадаваўся, калі даведаўся, што на новых банкнотах будуць хрысціянскія знакі. Шкада, што не на ўсіх. Сама па сабе наяўнасць сімволікі не мае ніякага значэння для чалавека, калі ён свядома не прапаведуе тое, што сімвалізуе сабой крыж, не чытае Евангелля. Аднак для хрысціянінапрактыка сімволіка перастае быць пустой. Гэта як "якар" да чагосьці большага, што неабыякава, што грэе душу, дае мір і надзею. А яшчэ крыж, напрыклад, з'яўляецца зброяй супраць д'ябла і валодае цудадзейнай, выратавальніцкай і гаючай сілай. На крыжы Езус у найвышэйшай ступені праявіў сваю любоў да людзей… Можа, гэта неяк паўплывае на эканамічнае становішча краіны :)



**Вадзім Крывенькі:**



– На маю думку, кожны сімвал мае значэнне. І проста так наносіць штосьці на грошы: карціны, посуд і іншыя прадметы, няправільна. Я мяркую, што Беларусь – краіна з устойлівымі хрысціянскімі традыцыямі. Таму выявы хрысціянства на новых грашах не зусім разумны выбар, бо "Кесару кесарава, а Богу – Божае". Хоць яны і адыгралі (і адыгрываюць) значную ролю ў гісторыі нашай краіны. А выявы паганскіх арнаментаў наогул дрэнны выбар. Ёсць жа шмат добрых прыкладаў, што размяшчаць на банкнотах і манетах: выбітных людзей краіны (так краіна будзе ведаць сваіх герояў, сваю гісторыю), выявы помнікаў архітэктуры, не звязаных з рэлігіяй (замкі, палацы, ратушы). Тым больш крыж, царква не проста знак і будынак, а святыя рэчы для кожнага хрысціяніна. І гэта не сумяшчальна са сродкам для гандлю, на маю думку. Асабліва, калі разглядзець той факт, што грошы могуць сапсавацца. І як будзе выглядаць памятая купюра з выявай крыжа?





# Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Як Вы ставіцеся да хрысціянскіх знакаў на грашах?**



Я супраць. Лічу, што грошы і хрысціянскія знакі – несумяшчальныя (41);
Лепш было б змясціць выявы знакамітых беларускіх дзеячаў (37);
Хай бы на купюрах была не толькі царква, але і касцёл (25);
Вельмі цікава. Нічога не маю супраць (22);
На грашах адлюстраваныя дзве эпохі беларускай гісторыі, таму мне падабаецца гэтая ідэя (13);
Мне ўсё роўна, абы толькі беларускі рубель быў моцны і надзейны (13);
Іншы варыянт (10).

**Усяго – 161 адказ**

**Фэйсбук:** ***Siarhei Matsiushonak:*** Павінны быць талеры

**ВК:** ***Eugeniusz Spokój*** Пагананскія ўзоры? Зразумела...

**Одноклассники:** ***Андрей Прялкин:*** Положительно...Неплохо бы ещё на флаге и гербе христианские символы... А то вон в Швеции и иже с ними кресты с церквей снимают. В знаках на деньгах нет никакого кощунства, а лишнее напоминание о том, что Беларусь христианская страна.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вера Шыкшнян** *(в. Гірэйшы, Браслаўскі р-н)*, **вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Валкалатах**, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **парафіяне з Пагошчы**, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **А.Ю. Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Т.Ф. Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Малгажата Бервячонак** *(в. Варанцы, Глыбоцкі р-н)*, **Марыя Харнікава** *(Шчучын)*, **парафіяне з Браслава**, **Ганарата Грыгель** *(в. Туланка, Іўеўскі р-н)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211800 г. Глыбокае
Віцебскай вобл.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*



# Ад Байкала да Тбілісі. Неверагодныя шляхі Божыя

**Сястра Лена Сурвіла з Віцебскай дыяцэзіі. Але Божы Провід накіраваў яе працаваць на розных пляцоўках у іншых краінах. Пра Божыя сюрпрызы, цяжкасці і радасці паклікання маладой манахіні пойдзе гаворка ў гэтым інтэрв'ю.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст*

**– Сястра Лена, Вы вельмі молада выглядаеце. А які ў Вас манаскі "стаж"?**

– Маладосць, як кажуць, гэта той недахоп, што хутка прамінае. Свой шлях у свет манаскага жыцця я пачала сем гадоў таму. Пасля неабходнай фармацыі ў Польшчы працавала чатыры гады ў Беларусі. А потым Пан Бог пачаў падкідваць сюрпрызы ў выглядзе маіх міжнародных вандровак.

**– Ордэнскія ўлады накіравалі Вас у Іркуцк. Цяжка было адарвацца ад роднай зямлі?**

– Прызнаюся, што гэта было нялёгка зрабіць. І справа нават не ў доўгім пералёце (самалётам з Мінска да Іркуцка – 7 гадзін). Праца каталіцкай манахіні ў Расіі кардынальна адрозніваецца ад працы ў Беларусі. На Радзіме мы шмат працуем у парафіях, маем кантакты з каталіцкімі сем'ямі, з моладдзю. А ў Расіі мая праца больш палягала на сацыяльным служэнні. Я наведвала дзіцячы шпіталь для хворых на сухоты, займалася з дзецьмі. Таксама дапамагала ў курыі і праводзіла катэхезу ў парафіі. Але за дзевяць месяцаў свайго побыту ў Іркуцку я вельмі зжылася з гэтым краем. Думаю, вялікая заслуга ў гэтым людзей, якія былі побач. Дзякуючы святарам і сёстрам я адчула сябе як у сям'і. Пры наступным пераводзе на новае месца працы не магла стрымаць слёз.

**– І Вас накіравалі ў Грузію?**

– Так, дакладна. Гэта было так нечакана!

**– Асабліва калі ўлічыць пэўную спецыфіку Вашага новага месца працы…**

– Шчыра кажучы, ніколі не думала, што давядзецца працаваць у дыпламатычным прадстаўніцтве Апостальскай Сталіцы.

**– І зноў давялося прывыкаць?**

– Так, мы з сястрой Барбарай тут адносна нядаўна. Але ўжо паспелі захапіцца і прыродай, і наваколлем і, канешне, людзьмі. Як толькі выйшлі з самалёта і сталі чакаць багаж, людзі адразу пачалі пытацца, ці не патрэбная нам якая дапамога. Прапанавалі падвезці ці паднесці рэчы. З зычлівасцю і адкрытасцю людзей сустракаемся кожны дзень.



**– У чым заключаецца Ваша праца ў нунцыятуры?**

– Я адказваю за гасцей. Мая задача – сустракаць наведвальнікаў і правесці да месца перамоваў. Акрамя таго, даводзіцца ездзіць па закупы. Ніяк не магу прывыкнуць да пільнай увагі да сябе. Ахова вельмі клапоціцца пра нашую бяспеку. А на вуліцах аўтамабіль з чырвонымі нумарамі праязджае нават праз "коркі" без усялякіх перашкодаў.

**– Як Вам грузінская мова?**

– Літары вельмі прыгожыя, але разабраць, што хто гаворыць, не ўяўляецца магчымым. Для мяне яна вельмі цяжкая. Але італьянскую ўжо вывучаю. Без яе нельга ў дыпмісіі Ватыкана. Адкрыю Вам сакрэт: збылася мая даўняя мара – вывучаць італьянскую мову.

**– Сумуеце па Беларусі?**

– Настальгія заўсёды будзе, але я вельмі цаню тое, што дае мне Бог. Я не магла і ўявіць сабе пару гадоў таму, што так павернецца маё жыццё. Бачу, што Бог падрыхтаваў для мяне столькі цікавага! Не хапае, канешне, працы з моладдзю і дзецьмі, якіх я так люблю. Тут, у Тбілісі, даводзіцца больш праяўляць свае нейкія гаспадарскія здольнасці, глядзець за парадкам і г.д...

**– Сястра Лена, ад імя рэдакцыі і нашых чытачоў жадаю Вам радасці ад Вашага паклікання і Божай дапамогі ў манаскім жыцці, якое Вы сабе выбралі з любові да Бога і Касцёла.**

– Дзякуй і Вам за гутарку.




*Фота з асабістага архіва с. Лены Сурвіла*

# Каляндар на снежань

**У снежні Касцёл перажывае перыяд Адвэнту – радаснага чакання Божага Нараджэння.**

**6 снежня – успамін святога Мікалая.**

Святы Мікалай жыў у III ст. у Малой Азіі. Быў біскупам Міры (сучасная Турцыя). Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай паціху падкінуў грошы тром маладым дзяўчатам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчатам удалося захаваць цнатлівасць і добра выйсці замуж. Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, каторыя гінулі ў моры. Пасля смерці Мікалая яго рэлíквіі захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзены італьянскімі купцамі і вывезены ў г. Бары на поўдні Італіі.

Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць Цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. Святы Мікалай з'яўляецца апекуном Расіі, а на Захадзе ён стаў правобразам славутага Санта-Клаўса. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.

**8 снежня – свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэта свята лічыцца абавязковым.

**25 снежня – Божае Нараджэнне.**

Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюцца і нечаканыя госці. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае брацць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.



**26 снежня – успамін святога Стэфана, першамучаніка.**

Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – Свята Святой Сям'і.**

Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца для нас найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

На гэты каляндарны дзень таксама прыпадае свята святога Яна, апостала. Рыбак, ён быў любімым вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Аліўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100-га г. З'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангеллем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол. Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**28 снежня – успамін святых немаўлят-мучанікаў.**

Урачыстаць гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі (Мц 2, 13-18).

*Падрыхтавала* ***Марына Ткач***



## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

- **2 снежня** – дзень нараджэння адзначае **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** (Віцебск);
- **4 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** (Расоны);
- **6 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** (Лучай), **кс. Мікалай Ціхановіч** (Глыбокае);
- **7 снежня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **Біскуп Юрый Касабуцкі**, дапаможны Біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** (Наваполацк);
- **11 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** (Параф'янава), імяніны адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** (Удзела);
- **14 снежня** – імяніны адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** (Відзы);
- **16 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Галец** (Лепель);
- **17 снежня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Марэк Пасют OFMCap** (Докшыцы);
- **22 снежня** – імяніны адзначае **кс. Зянон Шчонхар MS** (Відзы);
- **24 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Адам Дынак, канцлер** (Віцебск), **кс. Адам Квяткоўскі SDS** (Віцебск);
- **25 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** (Віцебск);
- **26 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Леанід Мозгель** (Павяцце);

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

## Шаноўны ксёндз-дзекан Валеры Орсік!

*Хачу павіншаваць Вас з 10-годдзем святарства (10 лістапада).*

*Ад мясцовасці дзяцінства словы шчырыя ляцяць,*
*З дзесяцігоддзем Вашага святарства хочацца павіншаваць.*
*Будзь заўжды пад Божаю аховай, у кожную хвіліну і ў кожны час.*
*Помні праз малітву тых, з кім у школе 10 год хадзілі ў адзін клас.*
*Помні пра куточак, сэрцу мілы, не забудзь і першых святароў.*
*Каб заўжды на ўсё хапала сілы, і каб да стагоддзя быў здароў.*

***З малітвай, мама аднакласніка Яніна Руткоўская (г. Бярозаўка)***

## Ад шчырага сэрца!



*Мы, вернікі Пагашчанскай парафіі Божай Міласэрнасці, шчыра віншуем свайго пробашча* ***кс. Славаміра Самковіча*** *з імянінамі, якія ён адзначае 5 лістапада і з 10-й гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада).*

*Шаноўнаму ксяндзу Славаміру складаем сардэчныя пажаданні трываласці на святарскім шляху, зычым шмат сіл і запалу ў абвяшчэнні Божага слова, добрага плёну ў душпастырскай працы, штодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай.*

*Мы молімся за Вас і жадаем плённай працы на доўгія гады!*

***Удзячныя парафіяне***

## Віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Прайшло крыху больш за год, як мы, вернікі Дзеркаўшчынскай парафіі, знаёміліся з новым пробашчам нашага касцёла – **ксяндзом Андрэем Кулікам**. Хтосьці яго ўжо ведаў, а многія бачылі ў першы раз. Ён адразу пакарыў нашыя сэрцы сваёй адметнай і непаўторнай харызмай, чароўнай усмешкай, сваёй добразычлівасцю.

Ксёндз Андрэй з першых дзён акунуўся ў гушчу жыцця нашай парафіі (на той час у касцёле ішоў рамонт). Дзякуючы яго здольнасцям умелага арганізатара, дбайнага гаспадара святыні ўсё гэта засталося ўжо ў мінулым. Але наш пробашч на гэтым не спыняецца, а ўпэўнена ідзе наперад. У яго яшчэ шмат задумак і планаў, каб наш Божы Дом стаў цудоўным райскім куточкам, дзе заўсёды жыве і пануе наш добры і міласэрны Пан Бог.

Сардэчна дзякуем нашаму шаноўнаму Святару за супольную працу, малітву, за цярпенне, разважлівасць, за ўменне выслухаць чалавека, суцешыць яго добрым словам і дапамагчы карысней парадай. 30 лістапада у нашага пробашча – Дзень імянін.

*Паважаны ксёндз Андрэй!*



*Мінуў кароткі час, а Вы для нас сталі зусім сваім,*
*Такім знаёмым, родным і, безумоўна, дарагім;*
*Хочацца пра Вас нам іншым людзям расказаць,*
*Са Святам разам сардэчна Вас павіншаваць!*

*Няхай Усявышні з неба на Вас Святога Духа спасылае,*
*Быць шчырым і мудрым пастырам няхай Ён вас бласлаўляе;*
*Прыносіць сваёй працай багаты, добры плён,*
*Служыць самаадданa Богу аж да апошніх сваіх дзён.*

*За Вас нястомна ў святой малітве будзем мы чуваць,*
*Ды што тут і казаць: мы ўсё гатовы Вам аддаць;*
*Каб толькі верна і разумна зямной дарогай нас вялі,*
*Усіх грэшнікаў каб навярнулі, да Бога за сабою прывялі.*

**З цёплымі і найлепшымі пажаданнямі,**
**парафіяне касцёла Унебаўшэсця Хрыста**
**(в. Дзеркаўшчына)**

## Віншуем!



12 лістапада споўнілася 10 гадоў са дня святарскага пасвячэння нашага цудоўнага, ініцыятыўнага і энергічнага **кс. Славаміра Самковіча**, былога душпастыра Бешанковіцкай парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла.

Шаноўны кс. Славамір! Шчыра дзякуем за Вашую дабрыню, за ласкавасць, цярплівасць, малітоўнасць. За Вашыя павучальныя казанні, мудрыя парады. За прыгажосць у капліцы, за густоўна зробленыя дэкарацыі, за ўзвядзенне новай святыні, за супакой у нашых душах і за ўсё іншае, што Вы для нас зрабілі.

Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага спакою, радасці, здзяйснення мараў і задумак, вытрымкі ў пакліканні. Добрых і зычлівых людзей побач. Няхай агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць яркім полымем і асвячае Ваш святарскі шлях.

**З малітвай і ўдзячнасцю,**
**парафіяне з Бешанковіч**

## Віншуем!



Сардэчна віншуем з 50-цігадовым юбілеем **ксяндза Анджэя Бочара**, пробашча парафіі Святога Станіслава ў Далёкіх!

Гэта святар, якога ведаюць не толькі на Віцебшчыне, але і ў іншых месцах Беларусі, Расіі і Літвы (як арганізатара рэкалекцый цвярозасці).

У дзень яго нараджэння, 6 лістапада, асабліва шчыра дзякуем Богу за тое, што Ён паслаў да нас у глыбінку такога мудрага святара.

Шаноўны ксёндз Анджэй! Дзякуем Вам за адданую працу на Божай ніве, за клопат пра развіццё нашай веры, за малітву, за тлумачэнне Святога Пісання і дапамогу ў разуменні сэнсу жыцця, за павагу да кожнага чалавека.

Жадаем Вам добрага здароўя, апекі Маці Божай, усіх дароў Духа Святога, добрых, спагадлівых і актыўных вернікаў, заўсёды гатовых падтрымаць Вашыя творчыя ініцыятывы. Няхай Пан Бог і надалей бласлаўляе Вас на штодзённыя справы!

**Удзячныя парафіяне**

## Ад шчырага сэрца!



**Ксёндз Алег Півавар** з Лёзна адзначае 6 лістапада Дзень нараджэння, а 12 лістапада – чарговую гадавіну святарскага пасвячэння. Мы, удзельнікі Апостальскага руху "Маргарытка" касцёла Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ у Паставах, ад усяго сэрца віншуем шаноўнага святара з гэтымі падзеямі!

Жадаем Вам, ксёндз Алег, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, Божага блаславення і апекі Маці Божай. Шчыра молімся за Вас!

**З павагай і ўдзячнасцю,**
**удзельнікі руху, г. Паставы**

## Хвала Хрысту!



30 лістапада адзначаюць імяніны нашы паважаныя святары – **ксёндз-пробашч Андрэй Возьняк SCJ** і **ксёндз Андрэй Бульчак**, а таксама **ксёндз Яўген Міхайлаў** з Глыбокага, які пэўны час працаваў у нашым касцёле. Шчыра віншуем іх з гэтай нагоды і жадаем поспехаў у душпастырскай працы, Божай ласкі, добрага здароўя, апекі і дапамогі ва ўсіх справах! Мы вельмі ўдзячныя нашым святарам за іх працу і адданасць Божай веры, бо гэта сапраўдныя святары ад Бога!

**З любоўю і ўдзячнасцю, вернікі**
**Пастаўскай парафіі**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважаная рэдакцыя! З вялікім задавальненнем чытаем вашу газету. Вялікі дзякуй за цікавыя і пазнавальныя артыкулы. Праз вашу газету мы хочам павіншаваць кс. Анджэя Бульчака з Днём Анёла.

30 лістапада святкуе Дзень Анёла **ксёндз Анджэй Бульчак**. Ад усяго сэрца віншуем яго з гэтай нагодай. Дзякуем за ўсе яго намаганні, за тое, што, не шкадуючы сілы, выконвае волю Хрыста. Прыгажосцю душы, сваёй святасцю, справамі, разуменнем і цярпеннем святар натхняў усіх нас ісці дарогай Божай Праўды. У штодзённай малітве яднаемся з ім і просім, каб Божая ласка напаўняла нашы сэрцы яшчэ мацнейшай верай, сапраўднай міласэрнасцю, вялікай любоўю і павагай да ўсіх, хто вакол нас. Молімся, каб Божая Міласэрнасць надзяляла ўсімі патрэбнымі ласкамі ксяндза Анджэя Бульчака і родных, дарагіх яму людзей!

**З малітвай, вернікі Чашніцкай парафіі**

## Шаноўны айцец Андрэй Зуй!



Сардэчна віншуем Вас з Днём народзінаў (3 лістапада) і з Імянінамі (30 лістапада).

Нізкі паклон Вам за шчырую малітву, за добрыя словы навукі, за клопаты і шчодрасць душы. Дзякуючы Вашаму таленту і самаадданай працы наш касцёл набыў велічны і прыгожы выгляд.

Шчасця, светлай радасці, здароўя, апекі і шчодрай ласкі Маці Божай Вам і Вашым родным, духоўнай і фізічнай моцы, многіх гадоў жыцця!

**Са шчырай малітвай за Вас, вернікі касцёла**
**св. Яна Хрысціцеля з аграгарадка**
**Валкалата**

## Віншуем!



Паважанаму **ксяндзу-пробашчу Станіславу Мжыглуду** з нагоды імянін дасылаем шмат гарачых пажаданняў і дзякуем за клопат, за ўсмешку і ўсё дабро, якое атрымліваем.

У гэты асаблівы дзень, дзень Вашых імянін, жадаем шчасця, шчодрых Божых ласкаў, даверу і надзеі ў Пану. Нясіце Добрую Навіну, пашырайце радасць і любоў, будзьце знакам прысутнасці добрага Бога сярод Яго люду. Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас зычлівасцю і дабрынёй, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае дары!

**З павагай і ўдзячнасцю,**
**парафіяне браслаўскага касцёла**
**Нараджэння Маці Божай**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



4 снежня **ксёндз Вацлаў Суткоўскі** святкуе Дзень нараджэння. Жадаем яму моцнага здароўя і поспехаў у душпастырскай працы.

Працуе ксёндз Вацлаў у нас толькі два месяцы. Мы шчыра ўдзячныя яму за яго дабрыню. Хай яму заўсёды дапамагае Бог!

**Вернікі парафіі Язафата**
**Кунцэвіча з Расонаў**

## Віншуем і дзякуем!



*У жніўні споўнілася 10 гадоў, як у нашай парафіі ў Лёзне працуе **ксёндз Алег Півавар**. Пробашч усе свае сілы накіроўвае на будаўніцтва касцёла, на духоўнае адраджэнне парафіі.*

*За месяц да свята св. Айца Піа, імя якога носіць наша парафія, касцёл значна змяніў унутраны выгляд. Кожную нядзелю мы бачылі, што ў святыні становіцца больш утульна і прыгожа. Дзякуючы ксяндзу Алегу, яго намаганням і працы, цярплівасці і залатым рукам мы маем Божы храм, куды прыходзім з болем і смуткам, з радасцю і шчасцем.*

*6 лістапада ў нашага паважанага ксяндза Алега Дзень нараджэння. Ад усяго сэрца віншуем яго і жадаем цярплівасці ў нялёгкай працы на ніве святарства, моцнага здароўя, добразычлівых людзей, гатовых дапамагчы ў будаўніцтве касцёла. Жадаем, каб мары здзяйсняліся, а ўсмешка заўсёды гасціла на твары.*

*Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і блаславіць на доўгія гады на святарскім шляху. Няхай Маці Божая, якая даручыла ў Вашы рукі свайго Сына, абараняе Вас мацярынскай любоўю і ахінае ад небяспекі сваім нябесным плашчом.*

*Нізка кланяемся і дзякуем святару за клопат, за ласку, сардэчнасць і дабрыню, за малітвы і выкладанне катэхезы, за разуменне і навучанне любіць Бога і бліжніх, за пабудову касцёла, дзе мы лечым нашы душы і сэрцы!*

*Няхай добры Бог аддзячыць бацькам за сына-святара!*

***Данута Голубева, ад імя вернікаў парафіі св. Айца Піа ў г.п. Лёзна***

## Хвала Хрысту!

*12 лістапада **ксёндз Славамір Самковіч** адзначыў 10-годдзе святарства.*



*Шаноўны ксёндз Славамір! Ад шчырага сэрца жадаем Вам дароў Духа Святога, Божае апекі, моцы духу ў нялёгкай справе служэння Богу і людзям, добрага здароўя. Няхай збываюцца ўсе Вашы планы і задумы, а апека Маці Божай атуляе Вас заўсёды!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем!



*Сардэчна віншуем з нагоды Дня нараджэння (13 лістапада) нашага паважанага пробашча кс. Станіслава Мжыглуда!*

*Ад усіх вернікаў Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў дасылаем віншаванні і шчырыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая Валадарка Азёраў хай атуляе Вас сваёй любоўю і апекай і дапамагае ў нялёгкай службе на Божай ніве, а ўсе святыя Божыя няспынна моляцца за Вас перад Божым Тронам. Жадаем плёну ў працы на карысць парафіі, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, заўсёды ўсмешкі на Вашым твары.*

*Выказваем удзячнасць за працу ў нашай парафіі. Дзякуем Вам за казанні, што прамаўляеце ў касцёле, за тое, што робіце для нас шмат дабра, за чулае і заўсёды адкрытае сэрца, за клопат пра наша духоўнае развіццё. Шчасці, Божа!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, законныя сёстры і парафіяльны хор***

## Паважаны кс. Валерый Орсік!

*З нагоды 10-годдзя святарскага пасвячэння дасылаем Вам самыя сардэчныя пажаданні. Жадаем добрага здароўя, Божага блаславлення, радасных хвілін у жыцці, дароў Святога Духа, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх справах, а таксама апекі Найсвяцейшай Панны Марыі!*

*Няхай Ваш Святы заступнік засцерагае Вас ад няшчасцяў і дапамагае ў розных сітуацыях!*

***Сям'я Пургяш (г. Бярозаўка, Лідскі р-н)***

# Падзяка з Чашнікаў

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**
**Паважаны ксёндз Анджэй Бульчак!**

У год Кансэкраванага жыцця мы з асаблівай сардэчнасцю і цеплынёй шчыра дзякуем і молімся за тых, хто сапраўдным сэнсам жыцця зрабіў адданае служэнне Богу, хто ахвяраваў сваё жыццё людзям, хто вучыў і вучыць нас быць у адзінстве з Богам. Уваходзячы ў нашу святыню, мы кожны раз успамінаем Вас, паважаны ксёндз Анджэй, Вашу нястомную працу па адраджэнні каталіцкай веры ў душах і сэрцах чашнічан, Вашу шчырасць, непасрэднасць, самаахвярнасць і стараннасць. Гэта была вельмі цяжкая і вялікая стваральная праца, якую Вы рабілі з характэрным для Вас духоўным натхненнем. Сардэчна дзякуем і віншуем са святам святога Андрэя! Нізка кланяемся за прасякнутае клопатамі пра іншых жыццё, за добрае сэрца, за чыстую, светлую і адчувальную душу, за пазітыўны настрой, які Вы заўсёды стваралі, за аптымізм. Вы паказалі сапраўдны прыклад самаадданага служэння Богу, шмат зрабілі дзеля таго, каб парафіяне захавалі ў сваіх сэрцах веру, пранеслі яе праз усё жыццё і перадалі нашчадкам.

На працягу шасці гадоў Вы праводзілі мэтанакіраваную духоўную працу: ладзіліся каталіцкія святы, Калядныя сустрэчы, конкурсы, віктарыны, пілігрымкі. На пустым месцы за кароткі час Вы здолелі пабудаваць наш утульны, прыгожы касцёл. Колькі сіл, часу, здароўя, матэрыяльных сродкаў было аддадзена Вамі дзеля гэтай высакароднай справы, ведае толькі Бог! Шчыра паважалі, любілі, шанавалі, спрыялі ўсе мы, стараліся аказваць пасільную дапамогу Вам, светламу чалавеку, выдатнаму святару, святару ад Бога.

А колькі дапамогі аказалі Вашы родныя і сябры, якія працавалі на будоўлі, разгружалі ўручную будматэрыялы, закладвалі падмурак пад будучую святыню, накрывалі дах, праводзілі неабходныя камунікацыі! Сардэчна дзякуем ім за ахвярную дапамогу!

Усе чашнічане вельмі ўдзячныя Вам, ксёндз Анджэй, за пабудову касцёла, які 6 жніўня 2014 года асвяціў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Асаблівыя словы ўдзячнасці дасылаюць Вам, ксёндз Анджэй, бацькі маленькіх вернікаў. Як настаўнік веры Вы на асабістым прыкладзе зрабілі шмат карыснага ў выхаванні і адукацыі дзяцей і моладзі. Нездарма ж бацькі некаторых немаўлят выбралі Вас хросным! Яны вельмі жадаюць, каб іх дзеткі выраслі падобнымі да Вас, служылі людзям, дабру і жылі згодна з хрысціянскімі каштоўнасцямі.



Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і за ласку спаткання з Вамі. Жадаем і надалей ніколі не спыняцца на шляху Дабра! Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у ажыццяўленні планаў і задумак, дае крыніцу бясконцай энергіі для служэння Касцёлу і на карысць людзям!

Нашу шчырую, сардэчную ўдзячнасць дасылаем Вашым бацькам і родным, сябрам. Вялікі дзякуй ім за дапамогу, падтрымку, шматгадовы ўдзел у жыцці парафіі. Няхай Добры Бог за ўсё добрае аддзячыць! Моцнага здароўя, радасці, бадзёрасці і аптымізму, мірнага неба над галавой! Атуляем усіх вас нашай любоўю і штодзённай малітвай.

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, вернікі касцёла Перамянення Панскага, г. Чашнікі***

# Дзякуем Богу за святара!

Другі год у нашай парафіі святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах працуе **ксёндз Генадзь Ляўкоў**. Гэта малады, энергічны святар, які добра разумее сваіх парафіянаў, навучае іх, дапамагае ў розных жыццёвых справах, падтрымлівае кожнага, хто звяртаецца па дапамогу. Нават праваслаўныя часта прыходзяць да яго са сваімі жыццёвымі праблемамі ў надзеі, што ксёндз дапаможа, убачыць выйсце, знойдзе патрэбныя словы.

Мы вельмі шчаслівыя, што ў асобе ксяндза Генадзя маем адданага душпастыра, шчырага ў малітве. Кожная святая Імша паглыбляе веру людзей, асабліва дзяцей і моладзі. Кожнае казанне, абвешчанае святаром Божае слова захоўваем у сэрцах і стараемся кіравацца ім у жыцці. Ксёндз Генадзь кожную нядзелю і ў святы цэлебруе па чатыры святыя Імшы, едзе за 10-25 кіламетраў, каб данесці людзям Божае слова, умацаваць у веры. Па яго ініцыятыве арганізаваны падвоз вернікаў з усіх капліц у першую нядзелю месяца. Гэтае набажэнства праводзіцца ўрачыста, што яшчэ больш аб'ядноўвае нашу парафіяльную супольнасць.



З першых дзён працы ксяндза Генадзя ў нашай парафіі мы ўбачылі чулага, шчырага, спагадлівага пастыра. За такога сына хочацца падзякаваць бацькам святара і пажадаць, каб добры Бог меў іх у сваёй апецы і адарыў моцным здароўем на доўгія гады жыцця. Дзякуем Пану Богу і біскупу Алегу Буткевічу, што накіраваў у нашу парафію такога цудоўнага святара!

19 лістапада ў ксяндза Генадзя Дзень нараджэння. Мы, парафіяне, сардэчна віншуем нашага паважанага святара і жадаем яму поспехаў у служэнні Богу і людзям, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Хай добры Бог адорыць яго шматлікімі ласкамі, а Маці Божая няспынна апякуецца ім!

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне дрысвяцкага касцёла (Браслаўскі р-н)***



# Разговор

**Задумывались ли вы когда-либо над тем, что в происходящих с нами событиях мы скорее заметим негатив, нежели что-то позитивное и радостное.**

**Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Например, сейчас, когда за окном глубокая осень, и мы неумолимо приближаемся к зиме, я часто слышу жалобы людей на погоду, на то, что денег не хватает, на работе сложности, дети не слушаются… Большинство с лёгкостью диагностируют у себя модную нынче депрессию. О каком счастье может идти речь…

В общем не жизнь, а сплошной пессимизм и скопление недовольств.

Чтобы как-то приукрасить и внести в хмурую, безрадостную и порой сложную жизнь каплю позитива и радости, поговорим сегодня о счастье.

Счастье достаточно интересное чувство. Хотя бы потому, что каждый человек по-разному его воспринимает. Кто-то счастье ассоциирует с материальным достатком в виде хорошего положения в обществе, больших денег, красивых машин и домов, а для кого-то счастье – быть с родными и близкими, иметь семью и детей, в конце концов, просто жить – это уже счастье.

Как видим, трактовки счастья бывают очень разными. В конечном итоге, вне зависимости от того, что вкладывается в это понятие, мы все хотим быть счастливыми, но не знаем, как достичь такого состояния.

Мы часто желаем друг другу счастья на различные праздники, с замиранием сердца загадываем себе счастье под бой курантов на новый год и при этом свято верим в то, что вокруг нас должно что-то произойти, измениться, для того чтобы мы наконец почувствовали себя счастливыми.

Но счастье – это, скорее, результат ваших усилий, каких-то навыков, это то, что нужно ещё воспитать, развить в себе. Счастье – это не временное наваждение, не эйфория, а размеренная, спокойная радость, гармония и баланс, уверенность и удовлетворенность.

И для того, чтобы вам было легче начать формировать у себя устойчивую привычку быть счастливым, предлагаю несколько правил:

### 1. Научитесь нести полную ответственность за себя

Не валите всё на внешние обстоятельства, на других людей. В том, что вы стали таким, какой вы есть, в первую очередь, виноваты вы сами. И виноваты даже не в том, что стали, а в том, что не смогли исправиться. Мы привыкли сетовать на начальство, на излишние придирки на работе, мы никак не хотим пересмотреть свой стиль работы, своё взаимодействие с коллегами, чтобы замечаний стало меньше. Потому что мы привыкли жить по принципу «пусть кто-то другой, а не я сделает первые шаги к изменениям». Всегда существуют какие-то решения, вы их просто не ведите или не хотите замечать из-за страха и из-за сомнений. Начните с себя, ведь, как говорится, «изменись сам, и мир вокруг тебя изменится».

### 2. Не жалуйтесь на жизнь

Меньше жалуйтесь на людей, на обстоятельства и на жизнь в целом. Прежде чем бежать с исповедью к своему другу, которому, возможно, и не нужны ваши проблемы – хватает своих, обдумайте её. Такая уж ли это проблема? В чём ее корни? Вы можете её решить? Если да, то решайте, если нет, то чего горевать, ведь вы никак не можете на это повлиять, следовательно, чего переживать? Большинство проблем после анализа лишаются своей «проблемной сущности», своей эмоционально-негативной составляющей и становятся просто досадными ситуациями!

А для этого нужно проводить больше времени наедине с собой. Многие люди привыкли постоянно загружать свой мозг лавинами информации: фильмы, интернет, различные книги, игры, работа, поэтому у них, естественно, не остается времени на то, чтобы обдумать свои проблемы, тогда как решение может быть настолько простым и очевидным, что они сами удивятся этому.

### 3. Ни о чём не жалейте

Не надо зацикливаться на том, что вы упустили какой-то шанс, что-то в прошлом сделали неправильно. Прошлое не изменишь, зато у него можно многому научиться. Не хороните свою жизнь под тоннами бессмысленных раскаяний и стенаний о былом, живите дальше.

### 4. Развивайте в себе навык «быть счастливым»

Конечно, легко сказать «имейте позитивный взгляд на вещи», но это не так легко сделать. Ну не может человек в одночасье перестроить свою модель восприятия окружающего и начать видеть в жизни больше хорошего только потому, что ему так сказали. Это не происходит как щелчок в голове. Такого, увы, не бывает. Без какой-то ежедневной практики вряд ли получится. Умение позитивно смотреть на вещи нужно воспитывать в себе день за днём, это требует определенной дисциплины и это намного сложнее, чем иметь такое мировосприятие, при котором для вас обнажается лишь негативный пласт бытия. Но если есть желание, то ничего невозможного нет. Главное – набраться терпения, ведь этот процесс достаточно длительный.

### 5. Развивайте умение позитивного восприятия окружающего мира

Окружающий мир вокруг не существует сам по себе, наше восприятие накладывает на него очень существенный отпечаток. И то, каким мы его видим, зависит только от нас. Кто-то, имея все необходимые для жизни блага – деньги, машину, семью, – всё равно жалуется и несчастен, а кто-то живёт скромным достатком и видит в своей жизни только хорошее.

Одни воспринимает жизнь как совокупность возможностей, как величайшую ценность, всё для них имеет смысл, а другие видят в ней лишь клетку и тюрьму, полную страдания и скорби.

Часто люди сами не понимают, что мир стал «плохим» не потому, что вокруг все плохие и всё плохо, а потому, что они сами видят в нём только плохое. Им может казаться, что проблема не в них, а в окружающих, их постоянно терзают мечты о лучшей жизни где-нибудь далеко или жизни там же, но при иных обстоятельствах.

### 6. Старайтесь понять окружающих людей

Звоните почаще родственникам, наладьте контакт с друзьями, с которыми давно не общались. Расширяйте свой круг общения. Поддерживайте людей в их бедах. Не надо зацикливаться только на себе, обратите внимание на то, чем живут другие люди, какие у них мысли, какие они находят поводы, чтобы быть счастливыми.

### 7. Развивайте позитивное мышление

Его можно применять не только в отношении окружающей действительности, но и в отношении людей. Старайтесь видеть в людях, в первую очередь, хорошее, прощайте им их недостатки и слабости. Иногда другой человек может стать для нас неисчерпаемым источником счастья!

### 8. Умейте игнорировать мнение и отношение окружающих

Это не значит, что вы должны игнорировать мнения людей и делать то, что вам захочется. Просто не впускайте в себя весь тот негатив, который могут на вас нагонять окружающие. Если вы действуете по совести, уверены, что совершаете всё правильно, то забудьте о том, что подумают люди вокруг. Людям свойственно завидовать чужому счастью, чужой свободе, чужому мужеству, если эти вещи служат им напоминанием о том, чего сами они не достигли.

### 9. Не обожествляйте свои желания

Не стоит постоянно зацикливаться на удовлетворении своих желаний и переживать из-за того, что это не всегда удаётся.



# о счастье

**«Часто люди сами не понимают, что мир стал «плохим» не потому, что вокруг все плохие и всё плохо, а потому, что они сами видят в нём только плохое»**

Не нужно постоянно жалеть себя и капризничать, подобно ребёнку, что вам не досталось того, чего хотелось. Что вы сегодня поехали не на машине, потому что она сломалась, что вы в пятницу вечером навестили родственника вместо того, чтобы сидеть возле любимого телевизора, как вы привыкли, и т.д., и т.п. Не привязывайтесь к своим привычкам, желаниям, это сделает вас зависимым от них! Помните, что счастье лежит по ту сторону удовлетворения ваших каждодневных прихотей, оно состоит в том, чтобы быть как можно более независимым от них!

**10. Помните, быть счастливым – намного сложнее, чем быть несчастным**

■ Акцентировать внимание на хорошем – сложнее, чем обращать взгляд только на плохое.

■ Быть приветливыми и улыбаться – тяжелее, чем раздражаться на окружающих.

■ Видеть в людях хорошее – труднее, чем замечать в них исключительно плохое.

■ Движение к своей цели требует намного больших усилий, чем просто идти на поводу у каждодневных прихотей.

■ Брать ответственность на себя – сложнее, чем валить всё на окружающих.

Думаю, каждый из вас понимает, что данные правила не сделают счастливыми в одночасье, но, придерживаясь их, можно почувствовать себя счастливым только потому, что вы будете проще смотреть на вещи и относиться к жизни в целом.

Счастье не достигается просто путем суммирования всех ваших достижений, радостей и вычитанием из этого ваших неудач и страданий. Оно отражает ваш взгляд на вещи, это состояние вашего духа, которое существует независимо от мелких происшествий в вашей жизни. В общем, счастье – оно внутри, и достигается работой над собой и формированием правильного, позитивного взгляда на вещи.

В завершении я хотела бы предложить вам одну притчу, которая отражает суть нашего разговора сегодня.



*«Бог слепил человека из глины, и остался у него неиспользованный кусок.*

*– Что ещё слепить тебе? – спросил Бог.*

*– Слепи мне счастье, – попросил человек.*

*Бог пристально посмотрел на человека и, ничего не ответив, положил человеку в ладонь оставшийся кусочек глины...»*

Старайтесь всегда помнить о том, что, несмотря на порой возникающие проблемы и трудности в нашей жизни, у нас всегда есть кусочек глины, образно, конечно, но всё-таки. Именно мы творцы собственного счастья, главное, попытаться изменить взгляд на жизнь, побольше оптимизма и радости. И пусть счастье станет постоянным спутником в вашей жизни!

Желаю вам успехов!

# Развažаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 лістапада 2015 г.**

***Ян 18, 33-37***

Езус – Кароль. Не вайсковы або палітычны. Яго Валадарства мае іншы характар. Ён валадарыць над сэрцамі і душамі Сваіх вернікаў. Чытаючы ў Біблii пра Божае Валадарства, мы разумеем гэта не як тэрыторыю, палітычную сістэму ці іншую чалавечую іерархію. Бог валадарыць у прасторы нашага сэрца, нашага жыцця і нашых учынкаў. Яго ўлада распасціраецца аж да неба. Ён мае моц вырваць нас з цемры смерці і падняць з грэху. Ён мае ўладу прывесці нас да вечнага жыцця, дзе Ён валадарыць. Ён прыносіць праўду, якая паказвае дарогу да Яго Каралеўства. Божае Каралеўства – гэта жыццё ў еднасці з Богам, Панам і Каралём, зараз і ў вечнасці.

*– Хто з'яўляецца каралём майго сэрца?*

*– Каго я слухаю, прымаючы важныя рашэнні?*

*– Ці клапачуся пра будаванне сваёй сувязі з Богам?*

*– Паводле якога закону я жыву?*

*– Каму давяраю і на каго спадзяюся?*

*– Ці дазваляю Богу валадарыць у маім жыцці?*

*– Ці ведаю законы Божага Валадарства, аб'яўленыя ў Евангеллі?*

*– Ці жыву і ці будую свае адносіны з Богам паводле іх?*

*– А можа, сваю душу і сваё жыццё будую паводле прынцыпаў гэтага свету?*

*– Магчыма, думаю пра веру, Касцёл і духоўнасць па-свецку?*

*– Ці прызнаю, што Езус ведае праўду пра жыццё?*

*– Ці слухаю Яго навуку?*

*– Ці намагаюся зразумець гэту праўду адносна майго жыцця?*

*– А можа, праганяю Езуса з трону майго сэрца і хачу зрабіць Яго сваім паслугачом?*

**29 лістапада 2015 г.**

***Лк 21, 25-28; 34-36***

Для чалавека, які кожны дзень просіць Бога, каб прыйшло Яго Валадарства, дзень прыйсця Пана не будзе нечаканым. Калі будуеш у сваім сэрцы Божае Валадарства, распачынаеш вечную еднасць з Богам і Яго вечнае валадаранне. Чалавек, які кожны дзень шукае Божай волі, Божай прысутнасці, які моліцца і жыве ў сяброўстве з Богам, ужо з'яўляецца ўдзельнікам вечнасці. Жыццё вучняў Хрыста – таксама падрыхтоўка да смерці, якая з'яўляецца пераходам да вольнага ад чалавечай абмежаванасці жыцця ў поўнай і дасканалай еднасці з Богам.

*– Ці хачу, каб Езус быў Панам майго сэрца?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці памятаю пра вечнасць?*

*– Ці рыхтуюся да вечнага жыцця?*

*– Ці гатовы я ісці сёння на смерць за Хрыста?*

*– А можа, канец свету або канец майго жыцця для мяне заўжды не ў час?*

*– Ці клапочуся пра стан сваёй душы, каб быць гатовым на Дзень суда?*

*– Штоёсьмаім "п'янствам" ці " абжорствам", якія абцяжарваюць маю душу?*

*– Можа, гэта жыццёвыя клопаты і вялікая прывязанасць да часовых спраў?*

*– Ці дбаю пра тое, каб Бог быў заўсёды на першым месцы ў маім жыцці?*

*– Ці малюся, каб не страціць сувязі з Богам, Які валадарыць у маім сэрцы?*

**6 снежня 2015 г.**

***Лк 3, 1-6***

Святы Ян Хрысціцель рыхтуе дарогу ў сэрцах братоў на сустрэчу з Богам, Які набліжаецца, каб прынесці ім збаўленне. Ён кліча да жэсту і паставы пакаяння. Ён вучыць прызнаць зло ўчынкаў, зробленых імі. Ізраільцяне праз абмыццё ў Іардане публічна прызнаюць свой грэх і просяць Бога аб прабачэнні. Такім чынам, Ян робіць сэрцы габрэяў падрыхтаванай глебай для прыняцця ласкі збаўлення.

*– Ці бачу я зло свайго грэху?*

*– Ці назіраю за сваім сумленнем, каб заўважыць недахоп любові ў маіх учынках?*

*– Ці хачу выпраўляцца?*

*– Што раблю, каб выправіць учыненае мной зло?*

*– Ці прашу прабачэння ў Бога?*

*– Ці пакутую праз зробленае зло?*

*– Ці шукаю Божай волі, каб лепш любіць?*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці шчыра гэта раблю?*

*– Ці не хаваю чаго-небудзь перад Богам?*

*– Атрымаўшы дараванне грахоў, ці распачынаю новае жыццё?*

**13 снежня 2015 г.**

***Лк 3, 10-18***

Святы Ян Хрысціцель вучыў, што новае жыццё будзе плёнам навяртання. Яно павінна праяўляцца ў справядлівых учынках, у дапамозе слабым. Ян прадказаў, што набліжаецца Хрыстос – Збаўца. Езус прынясе новую якасць духоўнага жыцця. Навука Езуса прынясе людзям Божую моц, якая будзе на іх выліта. Хрыстус распаліць душы сваіх вучняў і будзе іх ачышчаць, каб жылі ў поўнай праўдзе, свабодныя ад крывадушнасці.

*– Ці клапачуся я пра ўбогіх і слабых?*

*– Якім чынам і калі?*

*– Ці пастаянна?*

*– Ці справядліва я выконваю даверавыя мне Богам абавязкі?*

*– Ці ў Бога я шукаю моцы?*

*– Ці малюся аб Божай дапамозе ў маіх справах?*

*– А можа, разлічваю толькі на свае сілы?*

*– Ці прашу Хрыста, каб перамяняў мяне?*

*– Ці іду за Яго натхненнямі, якія чую ў сваім сумленні?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***




# Каляндар на Адвэнт 2015

**Прапануем увазе нашых чытачоў дзіцячы каляндар на Адвэнт. Асноўная ідэя календара ў тым, каб заахвоціць дзетак да больш руплівага перажывання часу чакання Божага Нараджэння. Каляндар выканаваны як мазаіка. Дзеткам неабходна запоўніць выяву Батлейкі, наклейваючы элементы, якіх не хапае. Сёлетні Адвэнт пачынаецца 29 лістапада, таму і даты на календары адпаведныя – да 24 снежня.**

Каляндар на Адвэнт вельмі папулярны ў парафіях падчас ратаў, калі дзеці прыходзяць у касцёл і атрымліваюць ад сясцёр або святара элементы календара. Напрыканцы тым, каму ўдалося сабраць увесь малюнак, уручаюць падарункі.

Але адвэнтовы каляндар можа выкарыстаць і дома. Напрыклад, бацькі могуць патлумачыць дзецям пра неабходнасць зрабіць нейкі добры ўчынак: атрымаць станоўчую адзнаку ў школе, памыць посуд, выгуляць сабаку ці дапамагчы з урокамі брацiку або сястрычцы. За кожны добры ўчынак дзіця атрымлівае элемент-самаклейку і запаўняе каляндар. Такім чынам, зрабіўшы 26 добрых учынкаў на працягу Адвэнту і сабраўшы ўвесь каляндар, дзеці атрымліваюць асалоду ад гульні, разумеюць патрэбу дабра і, канешне, могуць разлічваць на падарунак ад мамы і таты.

Каляндар на Адвэнт памерам А4 распрацаваны ў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка". Мастачка – Вольга Будкіна з Глыбокага.

**Замовіць каляндар можна, напісаўшы ліст у рэдакцыю на адрас:**

**вул. Савецкая, 1**
**211800 г. Глыбокае,**
**Віцебская вобласць.**

**Або патэлефанаваўшы па нумары +375 29 736 53 07**

Кошт календара – 10000 рублёў. Каляндар высылаецца накладзеным плацяжом. Пакупніку неабходна будзе аплаціць выдаткі па перасылцы.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" усім жадае плённага Адвэнту!**





## Божа, любы...




У фарбах восені адчую
Тваіх абдымкаў мілату.
Скрозь гулкі звон Цябе пачую,
Да Твайго Сэрца прыпаду.

Цябе ўбачу я праз цемру,
Што хоча шлях мой пагубіць.
Табе хачу, хачу я верна
Заўжды, Мой Госпадзе, служыць!

Мяне Ты ветрыкам цалуеш,
Павевам слодычы жывой,
У снах красоты ўсе малюеш,
Даеш надзею, супакой!

У фарбах восені адчую..
Бязмежнай велічы размах..
Цябе, мой Госпадзе, люблю я,
Прабач за мой збядненлы шлях.

*Юлія Кісялевіч*




Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 7288

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3700 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 18.11.2015 г. у 12.06

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь